ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.50

# Беларус

B I E L A R U S
Byelorussian Newspaper in the free World
Published by the Byelorussian-American Association
P.O. Box 178
Jamaica, New York 11432
U.S.A.

№ 350 Год выд. XXXVII | Жнівень 1988

*Да 70-годзьдзя БССР*

## «САЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ ЗЬМЕСТАМ, РАСЕЙСКАЯ ФОРМАЮ»

Пытаньне «Ці БССР — беларуская дзяржава?» напрошваецца само сабой, калі сочыш, штó адбываецца цяпер у Савецкім Саюзе і ў Беларусі. Вось 19-я Ўсесаюзная канфэрэнцыя КПСС запісала ў сваёй рэзалюцыі «Аб міжнацыянальных адносінах», у пункце 2-м, заклік: «Рашуча ачышчаць [ленінскія нормы й прынцыпы нацыянальнай палітыкі] ад штучных наслаеньняў і дэфармацыяў» («Зьвязда», 5.VII.88).

Найбольшая «дэфармацыя», якую пакінуў па сабе сталінска-брэжнеўскі пэрыяд на Беларусі — гэта пазбаўленьне Беларускае рэспублікі ейнае нацыянальнае мовы, як мовы афіцыйных органаў улады. У рэспубліканскім друку цяпер зьяўляецца маса артыкулаў, допісаў, лістоў у рэдакцыі, у якіх людзі жаляцца або пратэстуюць супраць дыскрымінацыі роднай мовы. Як-жа пры ўсіх гэтых пратэстах-нараканьнях ставіцца да беларускай мовы ДЗЯРЖАВА?

Дзяржава, як ведама (паняцьце ў вялікай меры абстрактнае), гэта першнаперш дзяржаўная ўстанова. Зазірнем туды, у дзяржаўную ўстанову. Вось піша газэта «Зьвязда» (15.VII.88): «Прыходзіць грамадзянін лічы, у любую ўстанову, і калі ён, часам, намкнецца размаўляць пабеларуску, зь ім гаворку ўсяроўна вядуць, як правіла, парускую. Іншы раз могуць і ня надта тактоўна папраравіць: 'Говорите со мной по-русски'».

Далей. Расказвае дэпутат (прозьвішча тут няма патрэбы называць, бо важны самы факт; гэткае можа здарыцца з кожным іншым дэпутатам): «На ўстаноўчай сэсіі раённага савету народных дэпутатаў выступаў я на беларускай мове. На другі дзень мяне папрасілі пераклясьці сваё выступленьне на рускую. 'А вы напішэце на беларускай', — кажу. 'Не, у нас аблвыканком ня прыме пратакол зь беларускай мовай', — адказваюць» («Зьвязда», 15.VII.88).

Вось гэтак выглядае ў БССР у афіцыйных сфэрах беларуска-рускае двумоўе, тое хваленае раўнапраўе беларускай мовы з расейскай.

І тут мы маем дачыненьне з выяўленьнем не індывідуальнай фанабэрыі чыноўніка (хоць і гэткае здараецца дзе ні ступні), а з афіцыйнай лініяй: «аблвыканком ня прыме пратаколу зь беларускай мовай». Чаму? — А таму, што далейшая інстанцыя — рэспубліканскі цэнтар — ня прымае пратаколаў зь беларускай мовай. Гэтак вось мы даходзім да вяршаліны дзяржаўнае піраміды, да сталіцы рэспублікі, да міністэрстваў, да ўраду, да ЦК кампартыі. Там, у ЦК КПБ, канчаецца падарожжа ўсякае пратакольнае справаздачнасьці, і адтуль наніз, праз усе інстанцыі, ідуць загады, рэкамэндацыі, а таксама й сакрэтныя інструкцыі, што рабіць з культурнай палітыкай, як ставіцца да беларускае мовы.

Гэтак рабілася дзесяцігодзьдзямі. Цяпер толькі, калі пайшла галоснасьць, людзі пачалі рэагаваць на «штучныя наслаеньні й дэфармацыі», пра якія было сказана нарэшце ў рэзалюцыі 19-й партканфэрэнцыі напрыканцы чэрвеня сёлета.

Адказ на пытаньне аб нацыянальным характары БССР («Ці БССР — беларуская дзяржава?») трэба выводзіць перш-наперш з аналізу культуры. Пра культуру савецкіх рэспублікаў догма цьвердзіць, што яна «сацыялістычная зьместам, нацыянальная формаю». А якія сёньня сваёй формаю бээсэсэраўскія пратаколы, ці афіцыйнае справаводзтва? Якая сваёй мовай пераважная бальшыня кніжнае прадукцыі на Беларусі? Бальшыня прафэсійных тэатраў? Уся кінапрадукцыя? Вышэйшыя навучальныя ўстановы?..

Вось-жа, калі нацыянальны характар дзяржавы вызначаць культураю, калі да БССР прыкладаць формулу «сацыялістычная зьместам — нацыянальная формаю», дык лягічна й аб'ектыўна трэба сьцьвердзіць, што сёньня БССР — рэспубліка сацыялістычная зьместам і расейская формаю.

Што да эканамічнага аналізу, дык тут справа больш складаная, галоўна таму, што савецкая ўлада хавае статыстыку. Але й безь яе — мяркуючы паводля культурнае палітыкі — можна цьвердзіць, што эканамічная палітыка савецкага рэжыму ня служыць перш-наперш інтарэсам беларускага народу. Эканоміка БССР — гэта прыдатак да імпэрскай праграмы маскоўскага цэнтру, дэнацыяналізацыя Беларусаў — гэта спосаб прыглушыць магчымы пратэст супраць эканамічнай эксплуатацыі рэспублікі.

Сучасная БССР ці не найбольш з цэлага СССР пазначаная «штучнымі наслаеньнямі і дэфармацыямі». Рэспубліканскі друк мусіў-бы пачынаць ставіць на парадак дня пытаньне выпраўленьня нацыянальнае палітыкі на Беларусі, калі рэзалюцыя 19-ай партканфэрэнцыі мае быць нечым большым як толькі звычайным шматком паперы.

**Арсень Загорны**

### КАРОНА Ў ШЭФА КДБ

Карону бэльгійскага караля знайшлі па вайне ў «асабістым музэі» шэфа КДБ Серова, які быў адным зь кіраўнікоў контрразьведвальнай арганізацыі «Сьмерш» («Зьвязда», 9.VIII.88).

Крыж сьв. Ефрасіньні Полацкай трэба шукаць, можа, па сьлядох «асабістай калекцыі» Цанавы.



**Данута Бічэль-Загнетава**

### КРЫЖ

*Над Беларусьсю*
*крыж Лазара Богшы расьпяты,*
*вочы красою пячэ,*
*быццам ня ўкраў яго кат.*
*Восем сьлязін-камянёў —*
*нацыянальныя страты.*
*Жомчуг — застылыя сьлёзы*
*дзяцей і дзяўчат.*

*Дзьве папярочыны —*
*шэсьць накірункаў магчымых,*
*дзе спаконвечна засаду ладзіў*
*чужак...*
*І дванаццаць абліччӑў*
*з пазнаўшымі праўду вачыма...*
*Колькі-ж пракокаў расьпята на*
*праўды крыжах!*
*І народных арнамэнтаў*
*на пласьцінах эмалевых зьзяньне.*
*Мовай натхненьня да люду мастак*
*гаварыў:*
*«Чэснае дрэва бясцэнна ёсьць,*
*а каваньне*
*яго золата і серабра*
*і каменьне і жомчуг ў сто*
*грыўн...»*

*Мовай натхненьня і розуму, мовай*
*закляцьця —*
*крыж ні прадаць, ні аддаць*
*ні ў вяках, ні пасьля!*
*Князь або ўладца хай не*
*папусьціцца здрадзе!*
*Здраду зямлі ўкрыжаванай*
*адпомсьціць зямля.*

*Думкі ўзьнікалі, бы промні*
*на прысланым дасьвецьці.*
*Адчуваньне шэдэўра*
*на пальцах майстравых рук.*
*Разабрацца ў драбніцах дакладна*
*дапамагаў яму вецер —*
*адзіны сьвітальны дарадца,*
*таемных мараў сябрук.*

*Малады быў, любіў ён*
*Прадславу,**
*ды ня так, як кахаюць мужчыны:*
*і здалёк зірунўшы на сонца,*
*асьлепнеш, а зблізку — згарыш.*
*Натхнёны яе яснотай,*
*ён стварыў, што зусім*
*немагчыма, —*
*як прызнаньне ў любові,*
*знак вечнай любові — крыж.*

*Укрыжаваў ён сябе*
*на векі вякоў без надзеі.*
*І адхланьне знайшоў у зямлі.*
*І безьліч мінула падзей.*
*Крыж грабежнікі ўкралі*
*і збылі, як збываюць зладзеі.*
*А вучоныя пішуць і пішуць пра крыж,*
*бы пра будучы дзень.*

*Беларускі народ у вяках абкралі.*
*Ён выжыў*
*і душу, і сьвяточную песьню,*
*і мову зьбярог.*
*Напрастольны крыж Ефрасіньні*
*зьбярог...*
*І ня маем мы гэтага крыжа.*
*Толькі памяць пра цені крыжоў*
*ля крыжовых дарог.*

«Беларусь», 1988, № 1

* Сьвецкае імя Ефрасіньні.

**Ад Рэдакцыі:** Паводля ўдакумэнтаванага артыкулу ў 12-й кнізе «Запісаў» БІНіМ (Нью-Ёрк, 1974), крыж сьв. Ефрасіньні напярэдадні нямецка-савецкай вайны знаходзіўся ў Магілеве, у браніраваным пакоі-сэйфе. Калі выбухнула вайна, Саветы мелі даволі часу, каб вывезьці гэтую рэліквію на ўсход. У беларускім савецкім друку паўтараецца адак цьверджаньне, — вэрсіі гэтай трымаецца й Бічэль-Загнетава, — што крыж сьв. Ефрасіньні нейкім чынам апынуўся «ў сэйфе аднаго з амэрыканскіх мілянераў» (Моргана). У згаданым нумары «Запісаў» (арт. Тодара Вашчука, «Крыж Сьв. Афрасіні. Дакумэнты й факты») сказана: «Праведзеная Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва, хутка пасьля апублікаваньня артыкулу А. Мальдзіса («ЛіМ», 1970, № 57), спроба высьніць і па каталёгу калекцыі, і беспасярэднімі роспытамі яе адпаведных працаўнікоў справу магчымага перахоўваньня ў ёй крыжа сьв. Афрасіні дала вынік нэгатыўны».

Аўтар артыкулу ў «Запісах» ня выключаў магчымасьці, што крыж у хаосе вайны «мог трапіць і ў рукі нямецкія, а пазьней заплысьці навет і за акіян у сэйфы амэрыканскія». Але тамжа была выказаная й гэткая думка (б. 94): «Калі весьці пошукі сумленна, ня можна ўсё-ж выпускаць зь віду й магчымасьці, што тады крыж лёгка таксама мог прыліпнуць да рук і тых

*(Працяг на 5-й б.)*

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
Subscription $15 yearly
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Падпіска зь перасылкаю 15 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## «З КІМ МОЛАДЗЬ?»

**Ад Рэдакцыі:** У папярэднім нумары мы паведамілі пра атрыманую зь Беларусі копію самвыдавецкае публікацыі «Бурачок». Ніжэй перадрукоўваем з «Бурачка», захоўваючы мову й правапіс арыгіналу, артыкул «В.М.» пад заг. «З кім моладзь?»

* * *

Дынаміка падзей нашага жыцьця, тэмпы дэнацыяналізацыі патрабуюць ад беларускіх актывістаў як найхутчэй прабіць тую «жалезную заслону» няведаньня, якая аддзяляе нацыянальны рух ад народу і асабліва ад беларускае моладзі.

Галоўнай перашкодай у збліжэньні актыву і моладзі, асабліва той, што называецца «рокерамі», «брэйкерамі», «металістамі», «фалістамі» і г.д., трэба прызнаць комплекс стэрэатыпаў, які выпрацавалі ў нас сродкі масавай інфармацыі. Гэная «шпана», маўляў, і тупая, і касмапалітычная, і цынічная і г.д.

Так, гэныя хлопцы і дзяўчаты мала што ведаюць пра нашую гісторыю і культуру. Але ж гэта ня столькі іх віна, колькі бяда. Адкуль было ім здабываць тыя веды? З газэтаў?

Гэта наш абавязак даць ім веды. А практыка паказвае, што гэтая «тупая» моладзь — надзвычай удзячная аўдыторыя, ключ да яе — поўная шчырасьць.

Так, яны не гавораць па-беларуску. Але дзе ім было навучыцца мове? У школе, дзе апрача пагарды да беларушчыны нічога не выхоўваюць?

У той жа час, як паказалі апытаньні, амаль што кожны беларускі школьнік задумваўся (хто часьцей, хто радзей): «Чаму мы, беларусы, горшыя за іншых?» І кожны адчуваў сорам за свой народ.

У кожным з гэтых юнакоў (носіць ён чорную куртку з заклёпкамі ці фарбуе валасы ў зялёны колер) сядзіць беларус. У крыві, у генах, у душы. Іншая справа, што гэты беларус завалены розным сьмецьцем (і гэта зусім не «хэві метал», а той маразм, якім дзіцячыя галовы забіваюць у школах). Гэта наш сьвяты абавязак рашчысьціць тыя завалы, тое сьмецьце.

Так, яны нігілісты і цынікі. А чаму? Ці не таму, што ім з маленства хлусілі на ўсіх узроўнях, а яны падрасьлі і зразумелі гэтае?

Вядома, нашмат прасьцей пагардліва заявіць: «Мы вышэй за іх. Яны не адпавядаюць нашым ідэалам. Але ж такая пазіцыя вядзе да сэктанцтва, а гэта сьмерць нацыянальнаму руху.

Наша моладзь — гэта *наша* моладзь. Іншай у нас няма. З ёй нам і працаваць. Трэба нарэшце зразумець, што той, хто будзе не з намі, той будзе супраць нас.

**В. М.**

**ЧАРНОБЫЛЬ**

## ЗАВЫШАНАЯ РАДЫЯЦЫЯ Й БЮРАКРАТЫЧНЫ ТУМАН

Беларускі савецкі пісьменьнік Алесь Адамовіч, апытаўшы шмат якіх спэцыялістаў радыяцыі, піша ў газэце «Московские Новости» (17.VII.88):

«У Магілеўскай вобласьці, дзе ў кольких раёнах прыродная радыяцыя дасюль яшчэ не вярнулася да нормы, сумленны талковы лекар паспрабаваў зрабіць элемэнтарна патрэбнае — завесьці кантрольныя карткі. Каб правяраліся ня толькі салдаты, занятыя дэзактывацыяй, але й трактарыст ці камбайнер, што працуюць у пыле.

«Гэта выклікала проста-ткі юпітэраў гнеў магілеўскага мэдначальніка, ён заявіў сходу лекароў: 'Вы падумайце, што задумаў! Я яму рукі прыкарачу!'

«Гэткія дзеячы ськіроўваюць свае намаганьні не на высьвятленьне агмянёў бяды, а на тое, каб іх схаваць. Хоць знаюць і разумеюць меру небясьпекі — выяжджаюць на меса із сваймі тэрмасамі й бутэрбродамі. І гэтую сарамяціну не бянтэжацца паказаваць на тэлевізары!»

Алесь Адамовіч даў прыклад, калі бюракраты дапілноўваюць свае інтарэсы, нават калі справа датычыць да жыцьця й сьмерці людзей:

«Гэта добра відаць з таго, як трымае сябе Аграпром, які мае беспасярэднюю карысьць ад бяздушнай практыкі, заведзенай у параженых раёнах Беларусі. Радыяцыя стымулюе рост некаторых злакаў, гэта адзначана і ўзважана: сям-там атрымалі нябывалыя ўраджаі. І Аграпром здымае гэтыя ўраджаі, выконвае пляны, а пасьля ня ведае, што з гэтай прадукцыяй рабіць.

«Беларусь зварачалася да саюзнага Аграпрому з хадайніцтвам: трэба выключыць з усіх плянаў землі параженых раёнаў. І зьнішчыць тысячы тонаў мяса з апрамененнай жывёлы, якім забітыя халадзільнікі Магілеўскай і Гомельскай вобласьцяў. Існасьць адказаў — бюракратычны туман».

**Генадзь Бураўкін**

* * *

*Ад Чарнобыля ў небе плыве*
*аблачынка.*
*А па лузе ідуць хлапчанё і*
*дзяўчынка.*
*Вецер шастае колкі.*
*Ліпкі дожджык імжыць…*
*І хто ведае,*
*Колькі*
*Засталося ім жыць.*

*Дзяўчанё яснавокае і хлапчук*
*светла-русы —*
*Па вясновай зямлі ідуць Беларусы.*
*Узіраюцца ў неба зусім без апаскі,*
*Каля сьцежкі зрываюць паніклыя*
*краскі.*
*І прагрэс перад позіркам іхнім*
*дрыжыць.*
*«А ці будзем мы жыць?»*
*«А ці будзем мы жыць?!»*

«Полымя», 1988, № 6.

# КУРАПАТЫ

Едучы падземкай з працы дахаты — працоўнага люду ў вагоне поўна — седзячы, чытаю. Ад узбуджанага перажываньня, незаўважна, самавольна, упарта цякуць сьлёзы па ланітах і спадаюць на газэту. Бліжэйшыя са зьдзіўленьнем глядзяць і ня ведаюць, што чытаю пра падзеі, пра якія мы расказвалі сорак гадоў таму іхным бацьком, дзядзьком і цёткам. Але, тады-ж яны былі нядаўнымі хаўрусьнікамі з Саветамі ў пераможнай вайне з нацыстамі, зь недаверам прыймалі нашыя апавяданьні пра сталінскія жудасныя зьдзекі ды яшчэ абвінавачвалі нас у праступках супраць Савецкага Саюзу за нашае, уяўленае імі супрацоўніцтва з нацыстамі.

О! Як моцна хацелася, каб яны, гэтыя людзі, ведалі нашую мову ды самі цяпер маглі прачытаць «Курапаты» з газэты «Літаратура і Мастацтва» (3.VI.88).

Некалькі гадоў таму ў нумарох 1(2), 2(3), 1(4) і 2(5) «Зважай», які выходзіць у Тароньце ў Канадзе, быў зьмешчаны нарыс «Моталь». У гэтым нарысе былі апісаны зьвярыныя ўчынкі тых-жа самых сталінскіх апрычнікаў. У ім былі пададзены сапраўдныя імёны й прозьвішчы ды вулічныя мянушкі ахвяраў і тых, хто спрычыняўся да іхных пакутаў і сьмерці. Некаторыя з гэтых ахвяраў і апрычнікаў былі сябрамі й сяброўкамі аўтара нарысу «Моталь», як ён сам кажа, ды ён быў навочным сьветкам некаторых расстрэлаў.

Супраць «Курапатаў» нарыс «Моталь» выглядае вельмі сьціплым у апісаньні сталінскага злачыну.

Былі водгукі на нарыс «Моталь»: адны казалі, што аўтар пад эмоцыяй пераўвялічыў падзеі; а другія казалі, што ня трэба было апісваць зьвярыных учынкаў зусім, яшчэ іншыя казалі, што трэба выдаць нарыс «Моталь« брашураю.

Запалоханыя сталінскім тэрорам, нават выхадцы зь Беларусі нічога не напісалі пра камуністычныя злачыны, якіх яны былі навочнымі сьветкамі, толькі з тае прычыны, каб ня спрычыніць бяды сваім родным у Беларусі. Ведамая толькі адна праца, што пабачыла сьвет, — гэта запраўды вельмі салідная кніга ўспамінаў нябожчыка Аўгена Калубовіча «На крыжовай дарозе» (Кліўленд, 1986).

Ніколі ня думалася й ня прыходзіла ў галаву, што бязь зьмены камуністычна-фашысцкай сыстэмы ў Савецкім Саюзе, у Беларусі пабачыць сьвет апісаньне сталінскіх зьдзекаў над нашым народам, над народам, пра які польскі пісьменьнік Тадэвуш Канвіцкі пісаў: «Беларусь, Беларусь… Ты павінна называцца Добрай Зямлёй Добрых Людзей».

А маглі гэтыя сталінскія злачыны застацца скрытымі пад спудам ды накрыцца пылам часу й гэтак пайсьці ў няпамяць.

Праца двух аўтараў, Зянона Пазьняка і Аўгена Шмыгалёва, у газэце «Літаратура і Мастацтва» пад загалоўкам «Курапаты — дарога сьмерці» — гэта сьветчаньне народнай справядлівасьці. Там-жа сказана: «Патрабаваньне ўсёй праўды аб злачынствах 1930-1950-х гадоў — гэта голас народнага сумленьня».

Можна спадзявацца, што зьявяцца ў друку весткі пра іншыя «Курапаты» іншых аўтараў, бо-ж падобныя масавыя магілы раськіданыя па ўсёй Беларусі.

Васіль Быкаў у сваёй прадмове да «Курапатаў» усклікае: «Але дзе канкрэтна ліквідаваны гэтыя многія сотні тысяч, у якой зямлі тлеюць іх белыя косточкі!» Далей ён кажа: «Ня трэба думаць, дарагі чытач, што гэта нейкая асаблівая, праклятая людзьмі і Богам зямля, — па сутнасьці, гэта тыя-ж самыя мясьціны, па якіх штодня ходзім мы, дзе адпачываем на лагодным прыродзе ў выхадныя і сьвяточныя дні, дзе весела гуляюць, нічога ня ведаючы аб мінулым, нашы бесклапотныя дзеці».

Так, Дарагі Чытач! Гэта і ёсьць нашых бацькоў і прадзедаў, нашых спаконвеку прашчураў зямелька, наша СЬВЯТАЯ БЕЛАРУСЬ.

**Маталянін**

## У КУРАПАТАХ — 300.000 РАССТРАЛЯНЫХ

Як падала газэта «Літаратура і Мастацтва» (22.VII.88; Міхась Замскі. Попел стукае ў цэрца…), у Курапацкім лесе «расстрэлы вяліся з айчыннай зброі… магіл, у якіх ляжаць расстраляныя, тут больш як пяцьсот».

Як мы даведаліся з прыватных крыніцаў, з матар'ялу пра Курапаты, што быў апублікаваны ў «ЛіМе» за 3.VI.88 г., былі выпушчаныя два лікі: 1. у Курапатах налічваецца расстраляных 300 тысячаў людзей; 2. сталінскія рэпрэсіі каштавалі Беларусі два міліёны загубленых жыцьцяў.



*Адна з раскапаных магілаў у Курапацкім лесе («ЛіМ», 22.VII.88).*

## АТАМНАЙ ЭЛЕКТРАСТАНЦЫІ НЯ БУДЗЕ

**Пратэст даў вынікі**

Недалёка ад Менску, на 37-м кілямэтры Бабруйскай шашы, пачалі былі будаваць Менскую атамную цеплаэлектрацэнтраль (АЦЭЦ), пуск якое прадбачыўся на 1989 год. Але пасьля чарнобыльскай катастрофы пачаліся пратэсты грамадзтва, у выніку якіх будаўніцтва Менскай АЦЭЦ было спыненае, катлаваны, што былі выкапаныя пад АЦЭЦ і якія «зьдзіўлялі сваёй глыбінёй», засыпаюцца пяском. Грашовыя страты ад зьмены праекту склалі 15 міліёнаў рублёў.

Як паведаміла газэта «Советская Белоруссия» (21.V.88), замест АЦЭЦ будзе будавацца цеплаэлектрацэнтраль (ЦЭЦ) — адна з найбольшых у СССР — што пачне сваю працу «не раней як у 1992 г.» ды будзе даваць на звычайным паліве гэтулькі-ж энэргіі, колькі плянавалася на АЦЭЦ. У Менску, піша газэта, склалася «войстрая сытуацыя дэфіцыту цяпла».

# ПРАФ. Т. БЭРД ПРА БЕЛАСТОЧЧЫНУ

***«Беларус»:*** Прафэсар Бэрд, сёлета ў чэрвені Вы наведалі Беласточчыну, якая была мэта Вашага падарожжа туды?

***Бэрд:*** Я быў удзельнікам канфэрэнцыі, скліканай з нагоды 30-х угодкаў беларускага літаратурнага аб'еднаньня «Белавежа». «Ніва» мела карэспандэнтаў у Злучаных Штатах, некаторыя зь іх пісалі вершы. А па Другой сусьветнай вайне, як ведама, спачатку ў Нямеччыне, а пасьля ў Амэрыцы выдаваліся літаратурныя часапісы: «Шыпшына», «Сакавік», «Конадні», у газэтах «Бацькаўшчына» й «Беларус» публікаваліся літаратурныя творы; выйшлі зборнікі паэзіі Арсеньневай, Сяднёва, Салаўя, Крушыны, Кавыля, Золака; проза Віцьбіча, Сяднёва ды іншых. На эміграцыі выйшлі таксама кнігі твораў Купалы, Коласа, Гаруна, Гарэцкага, Багдановіча, літаратуразнаўчыя працы пра іх. Гаварыць было пра што.



*Удзельнікі канфэрэнцыі з нагоды 30-годзьдзя літаратурнага згуртаваньня «Белавежа» (зьлева): Аляксандар Баршчэўскі, Ян Чыквін, Барыс Сачанка, Сэрафім Андраюк, Томас Бэрд, Алесь Пяткевіч, Уладзімер Казьбярук, Тэлесфор Позьняк, Аляксандар Іванюк. Фота М. Заморскага.*

***«Б-с»:*** Гэта было ўжо Ваша другое падарожжа на Беласточчыну...

***Б.:*** Так! Першы раз я езьдзіў у сьнежні 1986 году, калі ў Варшаве сьвяткаваўся юбілей газэты «Наша Ніва». Як ведаеце, я пішу працу пра «Нашу Ніву». На канфэрэнцыі-ж, што адбылася сёлета ў Беластоку, былі таксама даклады пра «Нашу Ніву» ў кантэксьце беларуска-польскіх сувязяў.

***«Б-с»:*** Якая была рэакцыя на Ваш даклад слухачоў-літаратараў зь Менску:



*Адзін з ансамбляў фэстывалю беларускай песьні. На авансцэне прамаўляе др. Аляксандар Баршчэўскі. Фота М. Заморскага.*

***«Б-с»:*** Як нядаўна пісала беластоцкая «Ніва», канфэрэнцыя мела міжнародны характар. Хто там быў з замежных гасьцей, апрача Вас?

***Б.:*** На канфэрэнцыю былі запрошаныя таксама дакладчыкі зь Менску, зь Лёндану. Некаторыя, нажаль, ня здолелі прыехаць (не давялося там пабачыць Адама Мальдзіса зь Менску, Джэймса Дынглі зь Лёндану), але бальшыня ўдзельнікаў прыехалі. Былі вельмі цікавыя даклады, літаратурныя чытаньні, дыскусіі.

***«Б-с»:*** Галоўна на тэму творчасьці Белавежцаў?

***Б.:*** Не, падыход быў шырэйшы: гаварылі таксама пра польска-беларускія сувязі, пра беларускі фальклёр, асаблівасьці літаратуры й мовы беларуска-польскага ўзьмежжа.

***«Б-с»:*** А Ваш даклад быў на якую тэму?

***Б.:*** Я гаварыў пра беларускую эміграцыйную літаратуру. Свае пачаткі замежная беларуская літаратура бярэ яшчэ з часоў «Нашай Нівы». «Наша Сачанкі, Казьбярука, Андраюка, Пяткевіча?

***Б.:*** Я сказаў-бы вельмі прыхільная. Усе яны цікавіліся беларускімі замежнымі выданьнямі, а ў гутарках прызнавалі, што, так, на захадзе ёсьць беларуская літаратура і пра яе трэба пачынаць гаварыць.

***«Б-с»:*** Кажуць, што ў бліжэйшым часе ў менскім літаратурным часапісе «Маладосьць» мае зьявіцца артыкул пра беларускую замежную літаратуру? Ці Вам што-небудзь ведама пра гэта?

***Б.:*** Падобнае чуў і я ў Беластоку. Пра гэта гаварыў Барыс Сачанка — што творы эміграцыйных пісьменьнікаў будуць, праўдападобна, друкавацца ў БССР. І калі-б так сталася, дык гэта было-б заканамерным, бо ў расейскай савецкай літаратуразнаўстве даўно ўжо вядуцца дыскусіі пра расейскую эміграцыйную літаратуру, публікуюцца цэлыя кніжкі пісьменьнікаў-эмігрантаў. Чаму-ж тады ў Менску ня пісаць

*(Працяг на 7-й б.)*

## ВЫДАТНЫ АНСАМБЛЬ НА СУСТРЭЧЫ Ў ТАРОНЬЦЕ

Пра музычна-вакальны ансамбль «Дубіны», які выступіць на Сустрэчы Беларусаў паўночнай Амэрыкі ў Тароньце, газэта «Ніва» (3.VII.88) піша:

«'Дубіны' сталі слаўным самадзейным калектывам. У Беластоку папулярнасьць яго настолькі вялікая, што заўсёды на яго канцэртах многалюдна.

«Так было і 12 мая. На тры канцэрты ў філярмоніі білеты былі прададзеныя на працягу некалькіх дзён, а жадаючых было на многа больш. Многія людзі па некалькі разоў бываюць на выступленьнях 'Дубіноў'».

ПАЕХАЎШЫ НА СУСТРЭЧУ, ВЫ БУДЗЕЦЕ МЕЦЬ НАГОДУ ПАБАЧЫЦЬ І ПАСЛУХАЦЬ ГЭТЫХ МАЙСТРОЎ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСЬНІ.



*Ансамбль «Дубіны» (зьлева): Пятро Скепка (кіраўнік), Дзімітры Ціханюк (саліст бас-гітара, кампазытар), Галя Якімюк (вакал), Янка Крынскі (гітарыст-саліст), Валодзя Скепка (барабан), Андрэй Іванюк (гітара).*

## CANADIAN BIELARUS SOCIETY

(SOCIETY FOR CULTURAL RELATIONS WITH BIELARUS)

July 28th, 1988

DEAR FRIENDS!

We are very pleased to inforr ı that in conjunction with the EIGHTEENTH BIENNIAL CONVENTION OF BIELARUSIANS OF NORTH AMERICA, organised by the Belorussian Canadian Alliance and Byelorussian-American Association, the CANADIAN BIELARUS SOCIETY, for the first time in North America, is sponsoring a GALA CONCERT featuring Bielarusian musical ensamble ı Western Bielarus (Bielastochchyna). It is with much pleasure that we introduce and ...come the debut of DUBINY on this continent.

As a part of the Eighteenth Convention, the concert is scheduled for September fourth, 1988, in the Senator Room at the Skyline Triumph Hotel. In the program Dubiny will entertain you with a variety of traditional folk and pop music.

In view of the great expense in organizing this gala we would greatly appreciate a donation payable to the Church of Saint Kiryla of Turau. Receipts will be issued for all donations. Please send contributions to:

Canadian Bielarus Society
4075 Old Dundas St., W. #B-2
TORONTO, ONT., M6S 2R7, CANADA

We are sure, this event will be successful and look forward to your participation.

Yours sincerely,
Can. Bielarus Society
*Alexander Palieski*
President

### «СУСТРЭЧЫ» № 8-9, 1988

На 28 старонках гэтага ілюстраванага нумару часапісу беларускіх студэнтаў у Польшчы зьмешчана:

Валянцін Сельвесюк — Парушыць зь месца (бел. нац. рух у Польшчы); Тарашкевіч у сэйме (вынятк з прамоваў); Яраслаў Яновіч — Спольшчваньне назваў мясцовасьцяў Беласточчыны (некалькі прыкладаў); Яўген Вапа — Беларусь, Беларусь... (пра наведаньне Гародні й Вільні); Янка Максімюк — Успамін (да гісторыі студэнцкага руху 80-х гг.); два вершы Ст. Валодзькі з Гарадзеншчыны; дзьве песьні-«маналогі» В. Урублеўскага й К. Каліноўскага барда Сяргея Сокалава з камэнтарамі аўтара; Алег Аблажэй (мастак зь Вільні) — Мастацтва ёсьць таямніца; біяграфічная даведка пра сьв. пам. Віктара Ярмалковіча; хроніка; лісты ў рэдакцыю; «Першы гром ударыў над Вавэлем» (гісторыя выхаду замуж Ядвігі за Ягайлу ў рысунках).

### АДРАСЫ Й ТЭЛЕФОНЫ Ў ТАРОНЬЦЕ

Беларускі рэлігійна-грамадзкі Цэнтар
524 St. Clarens Ave.
(416) 530-1025

Skyline Triumph Hotel
2737 Keele St.
(North of 401)
(416) 633-2000

Др. Раіса Жук-Грышкевіч
(705) 728-7581

Сп. Мікола Ганько
(416) 267-0798

### НА БЕЛАРУСКІ КРЫЖ У КАНАДЗЕ

В. і Р. Жук-Грышкевічы (замест вянка на магілу сп. Ул. Бортніка) к.д. 100
В. і Р. Жук-Грышкевічы (замест вянка на магілу сп. Ч. Ханяўкі) к.д. 100

*З ЖЫЦЬЦЯ Ў ЧЫКАГА*

# 1000-ГОДЗЬДЗЕ ХРЫСЬЦІЯНСТВА НА БЕЛАРУСІ




*Галоўная частка выстаўкі ў залі Хрыста Збавіцеля ў Чыкага. Кіраўнічка выстаўкі азнаямляе наведніка з выстаўкай. Справа — адзін з працаўнікоў выстаўкі.*

Увод хрысьціянства на Беларусі быў вялікай падзеяй, што глыбока ды шырака выклікала зьмены ў жыцьці краіны пад кожным аспэктам. Празь вякі ўплыў хрысьціянства быў прыкметным на творчым шляху нашага народу, даючы плённыя вынікі.

Гэтыя славутыя ўгодкі былі адзначаныя ў каталіцкай царкве Сьв. Збавіцеля ў Чыкага шырака закроенай праграмай, што вымагала шмат карпатлівай працы й трывала ад 4-га да 12-га чэрвеня.

З нагоды сьвята была зрыхтаваная, пад кіравецтвам сп-ні Веры Рамук, выстаўка, што адлюстроўвала тысячагадовую творчасьць беларускага народу ў пісьменстве, мастацтве, дойлідстве й г.д.. Паказаныя былі копіі друкаў Францішка Скарыны, рэлігійная літаратура, абразы сьвятых, здымкі сьвятыняў, фатаздымкі з падзеяў у парафіі царквы Сьв. Збавіцеля ў Чыкага; партрэты нашых волатаў-песьняроў аздаблялі сьцены. Некалькі пано з рэгіянальнымі беларускімі касьцюмамі нагадвалі пра непаўторную й арыгінальную творчасьць беларускага народу. Рукатворныя вышыўкі, інкруставаныя саломкай скрыначкі, вялікодныя пісанкі ў непаўторных дэсэнях, разьба па дрэве, лялькі ў нацыянальных касьцюмах былі разьмешчаныя ў зашклёных шафах.

Палотны з гэрбамі беларускіх гарадоў і пано зь беларускімі рэгіянальнымі лялькамі, выкананыя сп-няй Івонкай Сурвіла, былі разьвешаныя на сьценах і дадавалі калярыту зыркіх хвабраў. Дзяружкі ў вясёлкавых калёрах, ручнікі ды вышыўкі прыгожа красаваліся на сьценах і выставачных сталох.

У сьвятку ўвечары, 4-га чэрвеня, пасьля літургіі адслужанай а. Надсонам, у царкоўнай залі сп-ня Вера Рамук і а. Язэп Сыру прывіталі ўсіх прысутных, а а. Надсон урачыста адкрыў выстаўку. Адбыўся канцэрт клясычнай музыкі ў цудоўным выкананьні жаноцкага квартэту з Губэрнатарскага ўнівэрсытэту штату Іліной. У праграме прагучалі таксама прыгожыя мэлёдыі кампазытара Аладава. Пасьля канцэрту ведамы музыкавед зь Лёндану сп. Гай Пікарда выступіў зь цікавым дакладам пра беларускую царкоўную музыку, жыва ілюструючы сваім галасам розныя народныя мэлёдыі, што сталіся канвой царкоўнай музыкі.

У нядзелю перад літургіяй адбылася працэсія, у якой узяў удзел біскуп Пляцыда Радрыгез, дэлегат ад кардынала Бэрнардына ў Чыкага, у асысьце а. Аляксандра Надсона, Апостальскага візытатара для Беларусаў на Чужыне, ды шматлікіх сьвятароў, у суправаджэньні рыцараў Калюмба. Працэсія прыйшла да галоўных дзьвярэй царквы Хрыста Збавіцеля. Пры ўваходзе ў царкву сп-ня Тэрэса Тарасэвіч у нацыянальным касьцюме, разам зь іншымі парафіянкамі, прывітала біскупа Радрыгеза й а. Надсона хлебам з сольлю, дзеці ўручылі букеты кветак біскупу й сьвятару.

А. Надсон у суслужэньні сьвятароў адслужыў урачыстую літургію, сказаў пабеларуску й паангельску прынагодную казань. Напрыканцы літургіі біскуп Радрыгез выступіў з прыгожым словам пра важную ролю хрысьціянства на Беларусі, а па багаслужбе зьведаў выстаўку.

Папаўдні таго-ж дня адбыўся банкет, на якім сярод гасьцей быў а. Старвафорас, дэлегат ад грэцкага праваслаўнага біскупа Якаваса ў Чыкага. Праграму ў часе банкету вёў др. Анатоль Занковіч.

Прамаўляў а. А. Надсон. Прывітальныя тэлеграмы чыталі сп-ні Ванда Махнач і Анна Сенкевіч-Вайманк. Прывітаньні прыслалі: кардынал Бэрнардын, рыма-каталіцкі арцыбіскуп у Чыкага, мітрапаліт Сьцяпан Сулык ад Украінскай Каталіцкай Царквы ў Філядэльфіі, мітрапаліт М. Гэрманюк зь Вініпэгу ў Канадзе, біскупы Інацэнт Латоцкі і Р. Москаль ад укр. дыяцэзіяў у Чыкага і ў Парме, штат Агаё; біскуп Ізыдар Барэцкі ад укр. кат. царквы ў Тароньце, біскупы Тыматы Лын з Чыкага, Артар Аніл з Рокфарду ў Іліной, арцыб. Даніель Кучэра з Дуб'юка, Аёва; літоўскі біскуп з Чыкага Брызгіс , а. Спэнсэр Тыё ад Епіскапальнай Царквы; ад царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычмандгіле ды ад іншых сьвецкіх асобаў.

Вакальна-музычная праграма канцэрту складалася зь беларускіх народных песьняў і лірычных сучасных кампазыцыяў, удала выкананых Юркам Мазуруком.

У часе банкету а. Язэп Сыру ўручыў іконы з падзякай за шматгадовую працу ў парафіі: Алене Пакорнай, Аньне й Нікадыму Жызьнеўскім, Людвіцы й Антону Беленісам, Вальтэру Сэвілу і Амброжаму Сырому.

На працягу тыдня служыліся ўвечары літургіі ў розных мовах (беларускай, сырыйскай, грэцкай, славянскай і ангельскай) у царкве Хрыста Збавіцеля, адбываліся спатканьні ў выставачнай залі. Лік наведнікаў быў даволі ладны, шмат хто зь іх пакінуў прыхільныя водгукі ў упісной кнізе.

Газэта «Чыкага Трыбюн» зьмясьціла здымкі з нашай выстаўкі, таксама былі абвесткі й артыкулы ў газэтах «Чыкага Пост» «Гарлем-Ірвінг Таймс», у чэскай «Глас Народа» ды ў польскім «Дзеньніку Зьвёнзковым», а англамоўны тыднёвік «Чыкага Католік» зьмясьціў даволі вялікі артыкул аб нашым сьвяце, ілюстраваны здымкам біскупа Радрыгеза й а. Надсона. Былі таксама зацемкі ў шмат якіх царкоўных бюлетэнях.

**Праграма ўрачыстасьці была зьнятая на відэайстужку сп. Н. Жызьнеўскім. Зацікаўленыя асобы могуць дастаць касэту за 15 даляраў, пішучы на адрас: Christ the Redeemer Church, 3107 W. Fullerton Ave., Chicago, Ill. 60647.**

**У сыботу 11-га, увечары, у залі царквы Хрыста Збавіцеля адбыўся канцэрт опэрных сьпевакоў, што пакінуў па сабе незабыўнае ўражаньне.**

**Айцец Язэп Сыру, наш настаяцель, мае намер выдаць паангельску анталёгію 1000-годзьдзя хрысьціянства на Беларусі; трэба на гэта 200 падпішчыкаў. Кожны паасобнік будзе каштаваць 10 дал., і зацікаўленыя асобы павінны высылаць чэкі на адрас царквы, пады вышэй.**

Наапошку трэба выказаць шчырую падзяку а. Язэпу Сыру, які ўклаў шмат працы й высілку, каб праграма прайшла ўдала; сп-ні Веры Рамук, кіраўнічцы выстаўкі, ды тым, што памаглі зрыхтаваць выстаўку, пазычылі экспанаты ды інфармавалі публіку пры выстаўцы, рыхтавалі буфэт: сп-тву Беленісам, Н. Жызьнеўскаму, Е. Жызьнеўскай, Б. Паўку, Э. Ўокер, Г. Галяжа, Ю. Тарасэвіч, В. Мазура, В. Сэвілу, К. Куява, М. Дыкс, Э. Вайсынэт, сп-тву Махначом, І. Пануцэвіч, Н. Мароз, др. і сп-ні Талівэрам, К. Кайгатсу, Т. Тарасэвіч, Г. Сысой і А. Мантэлоні. Падзяка таксама належыцца харыстам пад кіравецтвам Эдвіна Вокара, кіраўніком банкету Сыльвэстру і Кэты Вішнеўскім ды Марыеце і Тамашу Дафнэр.

На ўрачыстасьцях былі госьці зь Мічыгану, Ўісконсыну, Арызоны, Тэксасу ды іншых, бліжэйшых ваколіцаў.

**Др. В. Р.**

---

**ЮБІЛЕЙНЫ БЛЯКНОТ**



**988 1988**

**Millennium of Christianity in Bielarus**

Беларускі Каарынацыйны Камітэт у Чыкага выдаў да 1000-годзьдзя хрысьціянства ў Беларусі юбілейныя блякноты фарматам 5,5 на 8,5 інча. У блякноце — 50 лісткоў. Цана зь перасылкаю: 1,50 дал. за сшытак. Замоўленьні пасылаць на адрас царквы Хрыста Збавіцеля: Christ the Redeemer Church, 3107 W. Fullerton Ave., Chicago, Ill. 60647.

---

*З ЖЫЦЬЦЯ Ў АДЭЛЯЙДЗЕ (АЎСТРАЛІЯ)*

## 1000-ГОДЗЬДЗЕ ХРЫСЬЦІЯНСТВА

Сьвяткаваньне адбылося ў нядзелю 17 ліпеня ў царкве Сьв. Пятра й Паўла БАПЦ. Айцец Міхаіл Бурнос, настаяцель царквы, адправіў літургію й малебен за Беларускі народ ў суслужэньні пратаярэя А. Кулакоўскага з Мэльбурну (БАПЦ), пратаярэя Пятра Касацкага й а. Анатоля Сытніка (Укр. АПЦ), а. Петковіча (Сербская Пр. Ц.), а. Ёрдана Тасева (Македонская Пр. Ц.). Служба была вельмі ўрачыстая, хор сьпяваў прыгожа пад кір. Уладзімера Калесьніковіча. Прат. Ал. Кулакоўскі сказаў узрушаную прапаведзь аб хрысьціянскай традыцыі ў Беларусі. Адбыўся крэсны ход вакол царквы. Усё прайшло прыгожа і ўрачыста.

У прыцаркоўнай залі за багатымі сталамі, падрыхтаванымі сястрыцтвам, адбыўся сьвяточны абед, у часе якога а. Міхась прачытаў атрыманыя прывітаньні і грунтоўны рэфэрат на тэму 1000-годзьдзя хрысьціянства ў Беларусі. На тую самую тэму коратка гаварыў паангельску сп. К. Станкевіч.

У мастацкай праграме выступіў мяшаны хор, які, пад акамп. Мікалая Кандрусіка, выканаў «Хрыстос Уваскрос» (сл. Купалы, муз. апр. Вольгі Бурнос), «Ой, ты Нёман» (муз. А. Шыдлоўскага) ды інш. песьні; з музычнымі нумарамі выступілі малодшы Юліян Кандрусік, Ляра Кандрусік; Віктар Зеляneўскі прадэклямаваў Купалаў верш «Прарок»; дзьве песьні прапяяў квартэт маладых дзяўчат (Ніна, Соня, Таня й Сандра, акамп. Тані Фешытынскай).

Па канцэрце адбылася цырымонія разразаньня пірага, што быў адмыслова сьпечаны да сьвята; усе сьвятары, трымаючы супольна нож, разрэзалі пірог, які быў раздадзены ўсім да кубка кавы.

Царкоўная ўправа выказвае шчырую падзяку жанчынам, што бралі ўдзел у рыхтаваньні сьвята і ў абслузе ягоных удзельнікаў.

Бяседа прайшла ў вясёлай атмасфэры, трывала да вечара ды пакінула добры настрой.

**У. Акавіты**

---

*РОДНАЯ МОВА: «ЛЁД КРАНУЎСЯ»?*

Газэта «Літаратура і Мастацтва» (22.VI.88) у аглядзе лістоў у рэдакцыю цытуе зь ліста настаўніцы Алены Рудко:

«Лёд крануўся. Вось і прыклады. 29 мая ў нашым райцэнтры праводзілася мастацка-спартыўнае сьвята 'Смаргонь-88'. Цудоўна арганізаванае, яно вылучалася яшчэ і тым, што ад пачатку да канца (з 12 да 23 гадзін) вялося на беларускай мове. Упяршыню. Пабеларуску гаварылі вядучыя. Пабеларуску загаварыў першы сакратар райкому партыі (упяршыню за 23 гады, што жыву ў Смаргоні, пачула беларускую мову ад работнікаў райкому) — аказваецца, умее, і цудоўна гаварыў. Так што будзе жыць родная мова».

## «ПАХВАЛА БЕЛАРУСКІМ СЬВЯТЫМ»

**Дзьве даўгаграйныя кружэлкі фірмы «Мелодия», Ленінград 1987**



*Ікона Сабору Беларускіх Сьвятых на вокладцы альбому з кружэлкамі (пра выданьне кружэлкі гл. «Б-с» № 349). У верхнім радзе (зьлева): кн. Расьціслаў, Еўфрасіньня Полацкая, Юльляна кн. Альшанская, кн. Софія Слуцкая; сярэдні рад (зьлева): Мартын Тураўскі, Апанас Берасьцейскі, Макар Пінскі, Ялісей Лаўрышаўскі; ніжні рад (зьлева): епіскапы Кірыла Тураўскі, Дзяніс Полацкі, Міна Полацкі, Сьмон Полацкі, Лаўрэн Тураўскі. На іконе няма сьвятых смаленскіх і віленскіх.*

*Уводная слова Мітрапаліта Мінскага й Беларускага Філарэта да царкоўных сьпеваў на кружэлках (пераклад з расейскае):*

«Сьвята 1000-годзьдзя хрышчэньня Русі — сьвята ўсяе Рускае Праваслаўнае Царквы, якая абыймае сабою шмат якія народы на тэрыторыі нашай краіны, што прынялі Божы дар сьвятога хрышчэньня, сярод іх і Беларускі народ. Паводля гістарычных дасьледаваньняў, можна зрабіць выснову, што ўжо пры прававерным князі Ўладзіміры і яговых сынох былі ўстаноўленыя епіскапскія катэдры ў местах Полацку й Тураве, а адныя зь першых сьвяціцеляў іхных, Міна, Дзяніс і Сымон Полацкія ды Кірыла й Лаўрэн Тураўскія, былі залічаныя Царквою ў лік сьвятых.

Напярэдадні выдатнай даты тысячагодзьдзя Рускай Праваслаўнай Царквы, з блаславеньня Яго Сьвяцейшасьці Патрыярха Маскоўскага і Ўсяе Русі Пімена, было ўстаноўленае сьвята Сабору Беларускіх сьвятых — у трэйцюю нядзелю па Пяцідзясятніцы. У гэты дзень у сьвятынях Мінскае епархіі мы праслаўляем нашых апякуноў нябёсных пяяньнем трапара:

Почти, Господь, Белорусский край святыми ему благоугодившими, святители мученики преподобными и праведными, верно Господеви послужившими и мзду трудов приявшими, к тем же ныне и мы вопием: о нас молитеся ко Господу да в вере и делех плод добр принесем.

(Ушануй, Госпадзе, Беларускі край сьвятымі, што рупіліся пра ягонае дабро, сьвяціцелямі й мучанікамі прападобнымі й праведнымі, што суверна Госпаду паслужылі і ўзнагароду за працу прынялі, да іх-жа сёньня й мы зварачаемся: за нас малецеся да Госпада, каб мы верай і працай сваёй плён добры прынесьлі).

Верым, што малітоўнае прадстаўніцтва сьвятых Беларускага краю будзе надзейным духовым апірышчам для нас, якія стаім ужо ля парогу трэйцяга тысячагодзьдзя ад Нараджэньня Хрыста, спадзяючыся сустрэць яго на нашай зямлі ў міры й дабрабыце».

---

### КРЫЖ

*(Заканчэньне зь 1-й б.)*

'даверанах' партыі ці НКВД асобаў, што мелі ключы да магілеўскага сэйфу. І ў гэткім выпадку павандраваў крыж хутчэй на ўсход, як на захад. Што й гэткую магчымасьць трэба паважна браць на ўвет пры пошуках крыжа, паказвае хоць-бы гэткі яскравы прыклад, што крыж сьвятое Параскевы з таго самага полацкага Спаса-Афрасіневага манастыра нядаўна, бо толькі ў 1968 годзе, быў выяўлены аж у Яраслаўлі Растоўскім».

## З ЖЫЦЬЦЯ Ў НЬЮ-ДЖЭРЗЫ

### 50-ГОДЗЬДЗЕ А. ДУБЯГІ

Прыхаджане парафіі Жыровіцкай Божай Маці ў Гайленд-Парку ды прыяцелі сп. Аўгена Дубягі ўрачыста адзначылі ў сыботу 25 чэрвеня ягоныя 50-я ўгодкі жыцьця. Аўгена найлепш ведаюць у гэтым асяродку як чалавека, які ў 1981 годзе ўзяў на сябе старшынства парафіяльнай рады ды мужна выступіў у абароне інтарэсаў парафіі й парафіянаў. Сын сп-тва Аўгена й Мальвіны Дубягаў, Генадзь, — іпадыякан у царкве Жыровіцкай Божай Маці ды ўжо даўгія гады прыкладаецца да прыгажосьці багаслужбаў.

Юбілянта й ягоную сям'ю вітаў сп. Янка Мiсюль, зямляк з дому, пажадаўшы ім ад імя ўсіх добрага здароўя й шчасьця.

### 75-Я ЎГОДКІ ПЯТРЫ КАЖУРЫ

Сп. Пётру Кажуру споўнілася 75 гадоў жыцьця (нарадз. 20.VI.1913). У нядзелю 26-га чэрвеня а. прат. Васіль адслужыў малебен за здароўе юбіляра. Таго-ж дня сям'я й прыяцелі ды супрацоўнікі яго сабраліся ў памешканьні сп-тва Кажураў, каб адзначыць урачыстую нагоду, ушанаваць вялікія заслугі гэтага спакойнага й сьціплага чалавека. Сваёй ахвярнай і бязупыннай грамадзкай працай сп. Кажура паставіў сябе ў шэрагі вялікіх дзеячоў беларускай эміграцыі.

Пётра Кажура нарадзіўся на Віленшчыне, быў узгадаваны ў беларускім патрыятычным духу. Другая сусьветная вайна застала яго ў польскай арміі, адкуль ён трапіў у нямецкі палон. Там ён змагаўся за аддзяленьне беларускіх палонных.



*Песьні пад гітару Юркі Мазурука. Фота А. Дубягі.*

Пасьля вайны ён актыўна працаваў над арганізацыяй беларускіх лягероў. У 1946 г. П. Кажура жэніцца з Марыяй Сапега. У чэрвені 1949 г. Кажуры прыбылі ў ЗША, пасяліліся сьпярша ў Саўт-Рывэры, а пасьля ў Нью-Брансьвіку.

У 1949 г. П. Кажура быў на паседжаньні ў Нью-Ёрку адным з заснадчыкаў Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня; у 1950 г. быў адным з заснавальнікаў аддзелу БАЗА ў Нью-Джэрзы; у 1951 г. — адным з закладчыкаў парафіі Божай Маці Жыровіцкай БАПЦ у Нью-Брансьвіку (сёньня Гайленд-Парк).

Прыехаўшы ў ЗША, П. Кажура дапамог дзесяткам іншых уцекачоў іміграваць у Амэрыку. У адзначаньне ягоных заслугаў яго выбіралі ад 1957 г. да 1968 г. за старшыню парафіяльнай рады, а ў 1980-88 гадох — за старшыню аддзелу БАЗА.

Сп. Кажура быў адным з закладчыкаў Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня Вэтэранаў, вядучым ініцыятарам куплі магільніка БАПЦ у Іст-Брансьвіку ды царквы Жыровіцкай Маці Божай у Гайленд-Парку.

Апошнімі гадамі сп. П. Кажура дапамагае распаўсюджваць Сьв. Пісаньне ў беларускай мове на тэрыторыі Польшчы й БССР, вядзе актыўную акцыю дапамогі царкоўнаму будаўніцтву на Беласточчыне, пабудове там Беларускага музэю.

### ЛЕКЦЫЯ ЛЁНІКА ТАРАСЭВІЧА

Стараньнямі Бібліятэкі мастацтва Ратгерскага ўнівэрсытэту ды Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва адбылася 11-га ліпеня лекцыя ведамага беларускага мастака зь Беласточчыны Лёніка Тарасэвіча. Тарасэвіч меў свае выстаўкі ў Эўропе, Паўдзённай Амэрыцы, Злучаных Штатах.

На лекцыю прыйшло шмат зацікаўленых. Вечар адчыніла загадчыца Бібліятэкі мастацтва сп-ня Галіна Русак прывітаньнем гасьця й прысутных.

Слухачы зь вялікай прыемнасьцяй выслухалі лекцыю пра карыкатуру са шматлікімі ілюстрацыямі ў выкананьні самога дакладчыка. У творах Лёніка Тарасэвіча выяўлены таленавіты майстар з глыбокім і тонкім разуменьнем палітычнага й сацыяльнага наваколься, які ня церпіць таннасьці й плыткасьці. Лёнік высака ацаніў часапіс «Сустрэчы», які выдаюць беларускія студэнты ў Варшаве.

Пасьля рэфэрату і ў часе прыняцьця ў гонар гасьця мастак адказваў на пытаньні, адбылася жвавая дыскусія.

### ПАРАФІЯЛЬНЫ ПІКНІК

У нядзелю 10-га ліпеня на прыцаркоўным пляцы царквы Жыровіцкай Божай Маці адбыўся традыцыйны парафіяльны пікнік. Прыбыло шмат гасьцей зь Нью-Ёрку ды іншых беларускіх асяродкаў. Сярод гасьцей былі музыканты й сьпевакі. Яны дадалі шмат да ўдачы імпрэзы. Ім вялікі дзякуй. Ня меншы дзякуй таксама за смачную ежу сп-ням Але Дубяга, Іры Сільвановіч і Люсі Кэнэр ды парафіяльнай радзе, арганізатару гэтай прыемнай сустрэчы-адпачынку.

---

### 150 НУМАРОЎ БЮЛЕТЭНЮ

Выдаваны сп. Аляксандрам Міцкевічам двойчы на месяц бюлетэнь нью-ёркскага аддзелу БАЗА дайшоў у гэтым месяцы да 150-га нумару. Гэта немалое дасягненьне. Вітаем выдаўца і ўсіх, хто яго падтрымвае.

---

### ПЕСЬНІ ДАНЧЫКА

Данчыкаву апошнюю кружэлку можна набыць за 15 дал. (плюс кошт перасылкі 2,50 дал. у ЗША), пішучы на адрас:

Mrs. J. Andrusyshyn
430 East 6 St., Apt 3C
New York, N.Y. 10009

# «НЕФАРМАЛЬНЫЯ» БЕЛАРУСЫ

*(Працяг з папярэдняга нумару)*

*Удзельнікі «круглага стала» часапісу «Нёман» (№ 6, 1988), прадстаўнікі нефармальных суполак беларускай моладзі, выказваюцца далей пра свае гурткі ды мэты, якія яны перад сабой паставілі.*

* * *

**Алесь Гуркоў**, студэнт тэхналягічнага інстытуту, старшыня экааб'еднаньня «Сьвітанак»:

«Штуршком для арганізацыі 'Сьвітанка' было, напэўна, падарожжа ў жнівені 1987 году па мясьцінах, зьвязаных з жыцьцём Адама Міцкевіча. Якраз тады мы, студэнты, на свае вочы пабачылі адзінства праблемаў экалёгіі й нацыянальнае культуры. Уявеце сабе вялізарныя дубы ў Шчорсах і ліповая альтанка ў парку ў Туганавічах. Самыя сабой ужо помнікі прыроды. А калі яшчэ дадаць, што пад гэтымі дубамі А. Міцкевіч пісаў свае вершы, а ў альтанцы — сустракаўся з каханай дзяўчынай, дык ніхто ня зможа аспрэчваць і культурна-эстэтычную каштоўнасьць гэтых помнікаў. Але чаму-ж тады наш сучасьнік расклаў у дуплах гэтых дубоў вогнішчы? Яшчэ жывыя колькі дзесяцігодзьдзяў таму, сёньня гэтыя дрэвы становяць сабой жалюгоднае відовішча. Тры магутныя галіны дубу Міцкевіч, як яго завуць у народзе, сьцягнутыя дротам, выпаленае дупло забіта грубымі дошкамі зь дзіркамі. Ні аднаго жывога лістка! Ад другога дубу застаўся вялікі абвуглены пень. З шасьцёх дрэваў ліповае альтанкі засталіся толькі тры. Гэтыя ліпы зламаў вецер пасьля таго, як нядаўна 'ўдзячныя нашчадкі' расклалі ў іхных дуплах агонь... Падарожнічаючы, мы пабачылі разбураныя помнікі архітэктуры, а таксама тыя 'ўдасканаленьні', якія ў шмат якіх мясьцінах выкліканыя мэліярацыяй і выпростваньнем рэчак. Тады й зьявілася ідэя арганізавацца ў аб'еднаньне ды памагчы разьвязаньню гэтых праблемаў.

**«Нёман»:** «Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя» зьбіраецца і існуе пры Саюзе пісьменьнікаў. Якое там стаўленьне да вас? Бо-ж у творчым асяродзьдзі, як ведама, дачыненьні 'старэйшых' і 'малодшых' рэдка складаюцца без канфліктаў...»

**Сяргей Кавалёў**, аспірант-філёляг, прадстаўнік «Тутэйшых»:

«Мне здаецца, што гэты канфлікт глыбейшы, як проста канфлікт пакаленьняў. Шмат якія пісьменьнікі нэгатыўна ставяцца да 'Тутэйшых' дзеля таго, бач, што мы іх не прызнаём. І гэта праўда — некаторых не прызнаём. Ёсьць за што. Бо-ж у тым, што ў нас мізэрныя тыражы, а кнігі прастойваюць у магазынах па пяць-дзесяць гадоў — ёсьць 'заслуга' тых пісьменьнікаў, якія сваёй 'творчасьцяй' і грамадзянскай пасыўнасьцяй толькі дыскрэдытуюць родную мову, культуру, нацыянальную самабытнасьць і думаюць толькі пра грошы й званьні. Выходзіць, што ў нас зь імі зусім розныя, супрацьлежныя заданьні. У гэтым канфлікт. Мы, маладыя літаратары, з надзеяй глядзім на нефармальных рух і бярэм у ім удзел. Бо-ж сёньняшнія 'нефармальныя Беларусы' — нашыя запраўдныя чытачы. Калі выйдуць кнігі нашых паэтаў, іх будуць чытаць у тымжа аб'еднаньні 'Талака', у іншых аб'еднаньнях. А гэта сотні маладых людзей. Тым-жа часам, як я ўжо сказаў, 'Тутэйшыя' самі займаюцца патрыятычнай грамадзкай дзейнасьцяй. Правялі Дзень памяці (традыцыйны беларускі назоў яго «Дзяды») ля помніка Янку Купалу, вечар памяці Уладзімера Караткевіча ў тэхналягічным інстытуце, ды й наша выступленьне ў перапоўненай залі Дому літаратара было ня толькі чыста літаратурнай, але й грамадзкай акцыяй. Тое-ж можна сказаць і аб удзеле ў водным паходзе па Дзьвіне, які быў выяўленьнем нашага пратэсту супраць будаўніцтва Даўгаўпілскай ГЭС.

«Што да самое літаратуры, творчасьці, дык тут выявілася, што, хоць гэта й чыста індывідуальны працэс, аднак супольнымі намаганьнямі можна шмат чаго дасягнуць. Прыкладам, у самаўзгадаваньні і самаадукацыі. У таварыства ўваходзяць зусім розныя людзі: Адам Глобус, у якога падрыхтаваныя да выданьня дзьве кнігі, і Анатоль Сыс, у якога таксама напісаная кніга, ужо дасягнулі пэўнага літаратурнага ўзроўню. Іншыя, малодшыя, арыентуюцца на іх. Адначасна ёсьць і агульныя для ўсіх арыентыры — творчасьць М. Багдановіча, М. Гарэцкага. Ул. Караткевіча. Мінуў год, і можна заўважыць, што ў Таварыстве ў людзей хутчэй фармуецца густ, прычым не па выпадковых кнігах, а больш сыстэмна, прадумана. Цяпер 'Тутэйшыя' падрыхтавалі альманах. Зазначу, што лягчэй аддаць свой твор ведамаму пісьменьніку й выслухаць ягоныя заўвагі, як запрапанаваць твор для абмеркаваньня ў 'Тутэйшых'. Гэта самая патрабавальная аўдыторыя, якую я калі-небудзь бачыў. Яшчэ ад іншых аб'еднаньняў нас адрозьнівае наяўнасьць нутраных груповак, але, відаць, гэтак і павінна быць. Бо-ж гэта творчыя групоўкі.

**Адам Глобус**, карэспандэнт часапісу «Крыніца» (пачаў выходзіць сёлета): «Сяргей правільна сказаў: няпрызнаньне. Аднак хто каго не прызнае і наколькі? З аднаго боку, старэйшыя ўважаюць, што мы іх не прызнаем, а з другога — яны ня хочуць прызнаваць нас, нашыя спробы ў прозе, паэзіі. Вось канкрэтна: першы дакор нашай урбаністычнай прозе — гэта не беларуская мова. Асташонак і Глобус пішуць, бач, няведама якой мовай. Але гэта наша жывая мова, на якой мы гаворым дома, на вуліцы, на працы і ў сваіх апавяданьнях, на якой гавораць сотні людзей з нашых клюбаў. Пэўнаж, гэтая мова не такая, якою гутарыла бальшыня нашых пісьменьнікаў у сваім 'вясковым' маленстве, таму што гэта — гарадзкая беларуская мова. І гарадзкія праблемы. Менавіта дзеля гэтага шмат якія нашыя маладыя паэты й празаікі ніяк не праб'юцца ў выдавецтвы. Там даўно ляжаць кніжкі Сьцяпана, Асташонка, Клімковіча ды іншых, але чамусьці ня выходзяць. Маладыя разумеюць, што ўсё гэта ня так, як павінна быць, і зьяўляюцца аб'еднаньні. Нашае таварыства аб'яднала 'Крыніцы' пры 'Чырвонай зьмене', унівэрсытэцкі 'Ўзьлёт', 'Вавілон' перакладчыкаў, наваполацкія 'Крыніцы' ды многіх маладых, якія шукалі аднадумцаў. Гэта значыцца, мы аб'ядналіся, нефармальна, зразумела, у гэткую арганізацыю, якая ўжо прадстаўляла інтарэсы бальшыні маладых літаратараў і шукала падтрыманьня ў Саюзе пісьменьнікаў. Саюз нам яго паабяцаў. Але да гэтага часу ніякага статусу, ніякіх правоў нам не далі. Усё на словах».

*(Працяг у наступным нумары)*

***ГАЗЭТА «БЕЛАРУС» — ЛУЧНІК З БАЦЬКАЎШЧЫНАЙ І МЕСЦА ДАКУМЭНТАЦЫІ ЖЫЦЬЦЯ ЗАМЕЖНАЕ БЕЛАРУСІ — ВЫХОДЗІЦЬ ТОЛЬКІ ДЗЯКУЮЧЫ АХВЯРНАСЬЦІ ЧЫТАЧОЎ. ЗА ГЭТА ІМ ПАДЗЯКА І СЛАВА.***

## ПОМНІК АЛЕСЮ ГАРУНУ



У Кракаве на Ракавіцкіх могілках стараньнямі інж. Юр'я Латышонка і ягонага сына Алега (абодвы на здымку) пабудаваны помнік Алесю Гаруну. На помніку, пабеларуску й паангельску, напіс: «Алесь Гарун — Аляксандар Прушынскі. 11.III.1887 — 28.VII.1920. Беларускі паэт, рэвалюцыйны і незалежніцкі дзеяч. Суродзічы». У пабудове помніка ўзялі ўдзел і суродзічы-эміграты (збор грашовых ахвяраў вёў сп. К. Акула). Афіцыйнае адчыненьне помніка адбудзецца на Ракавіцкіх могілках 24 верасьня сёлета.

***На сьвята Алеся Гаруна — у Маскве 2 красавіка 1922 году.***

*Ад Крывіцкіх балотаў*
*да тундраў Сыбіру,*
*Ад аковаў душы да цяжкіх*
*ланцугоў, —*
*Ты пяяў няўпынна, званіў*
*сваёй лірай,*
*Заклікаў нас на родныя гоні дамоў.*

*«Беларус, схамяніся...» «Хутчэй*
*прачынайся», —*
*Вось што чулася мне ў пекных*
*вершах тваіх, —*
*«Родны край свой кахай»... «Мовы*
*ты не зракайся».*
*Так пяяў наш гаротны, будзіў нас і...*
*сьціх...*

*Раўнаваўшы сябе да зялёнага дубу,*
*Што па сьмерці кідае дубкоў*
*маладых,*
*Цэлы лес абудзіў ты, але-ж тваю*
*згубу*
*Помніць ён і сумуе да дзён*
*аж да тых.*

*Раўнаваўшы сябе да ручайкі малой,*
*Што зьвініць па карэньні, цячэць*
*цёмным борам,*
*Ты, папраўдзе, быў слаўнай,*
*вялікай ракой,*
*І яна ў гэты час разьліваецца*
*морам...*

*Ты хацеў, салавей наш, хацеў*
*хоць калі,*
*Хоць адзін пачуць сьпеў свой і —*
*з вуснаў дзяўчыны.*
*Ўстань, прыйдзі, наш гаротны,*
*зь сьцюдзёнай зямлі,*
*Твае сьпевы зьвіняць у тваё*
*вечарыны...*

*Ты ня йдзеш? Не чакаў ты, пясьняр*
*малады,*
*Беларусь каб цябе кожны год*
*памінала?*
*Ты маўчыш? — Хай жа імчыцца*
*ў вякі і гады*
*Гэты звычай, і памяць табе, а зь*
*ёй — хвала!*

**Уладзімер Дубоўка**

«Беларусь», 1988, № 6

## ПАЛЯКІ НА БЕЛАРУСІ: «НАЙБОЛЬШ АСЫМІЛЯВАНЫЯ»

Польскі месячнік «Контрасты» (№ 3, 1988) зьмясьціў арт. Кшыштафа Драздоўскага пра Палякоў у СССР. Драздоўскі піша, што паводля статыстыкі 1979 г. у Савецкім Саюзе было больш за мілён 150 тыс. жыхароў польскай нацыянальнасьці. Сытуацыя для Палякоў у СССР, піша Драздоўскі, «выразна зьмянілася па падпісаньні М. Гарбачовам і В. Ярузэльскім у красавіку 1987 г. дэклярацыі аб польска-савецкім супрацоўніцтве». Тэма Палякоў у СССР больш ужо не табу ў савецкіх сродках інфармацыі. Пра Палякоў была перададзеная сэрыя праграмаў на літоўскім тэлебачаньні, быў рэпартаж пра польскую школу ў Львове.

Яцэк Даліва, прадстаўнік польскага Таварыства Сувязі з Замежжам «Палёнія», сказаў Драздоўскаму пра Беларусь:

«Нажаль, там асыміляцыйныя працэсы зайшлі найдалей. Гэта напэўна вынік вялікага падабенства мовы, але таксама й таго, што там няма школаў з польскай мовай навучаньня. Гэта адно зь істотных пытаньняў, абмяркоўваных цяпер з савецкім бокам. Пацяшальна аднак тое, — сказаў Даліва, — што на гэных тэрыторыях адбываюцца зьмены. У Лідзе, прыкладам, створаны Клюб Прыхільнікаў Польскай Культуры — першая ў паваенным часе такога тыпу арганізацыя на Беларусі».

# М. МУШЫНСКІ І ЯГОНАЯ «МЭТАДАЛЁГІЯ»

**Адказ менскаму крытыку**

Кніжка Міхася Мушынскага «Літаратура і ідэялагічная барацьба. Некаторыя аспекты фальсыфікацыі беларускай літаратуры на Захадзе» (АН БССР, Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы, Мінск, выд. «Навука і тэхніка», 1987, 74 бб.) мусіла-б выйсьці ў сэрыі «Бібліятэчка газэты Голас Радзімы», у якой публікаваліся опусы Леаніда Прокшы, Алеся Бажка, Уладзімера Бягуна й да іх падобных «белбурнацолагаў». Выхад кніжкі Мушынскага пад грыфам АН БССР — гэта адназначна прафанацыя і Акадэміі і гісторыяграфіі, пра што шырака гаварылася на нядаўным пленуме Саюзу Пісьменьнікаў БССР (на якім быў і Мушынскі). У папярэднім нумары «Беларуса» сёе-тое пададзена з выказваньняў на гэтым пленуме пра «дасягненьні» гістарычнае навукі ў БССР. Мушынскі сваёй працай «Літаратура і ідэялагічная барацьба» (рэдактар: В. П. Жураўлёў, др. філялягічных навук) зрабіў свой уклад у гэныя «дасягненьні».

Мушынскі любіць карыстацца тэрмінам «мэтадалёгія». Бач, я з вамі, белбурнацкія фальсыфікатары, панавуковаму распраўлюся. Але якая ў яго самога «мэтадалёгія»? Ніякае заходняе мовы Мушынскі ня ведае. Пішучы пра Захад, пра Амэрыку, спасылкі змушаны рабіць выключна на савецкія газэты й часапісы. А як дайшло да разгляду англамоўнае кнігі праф. Арнольда МакМіліна «Гісторыя беларускай літаратуры» (якой прысьвечаны цэлы разьдзел), дык тут ужо ніякіх спасылак няма, хоць двукосьсе ў рабоце.

Аб тым, што дзеецца ў беларускай эміграцыі, Мушынскі зялёнага паняцьця не мае. Для яго Ст. Станкевіч, Ф. Кушаль, Э. Ясюк, даўно нябожчыкі ўжо, вечная ім памяць — «у сучасны момант» — «найбольш актыўныя дзеячы беларускага вызвольнага руху» (б. 54); Ю. Віцьбіч, які ўвесь час пражыў у ЗША, дзе й памёр у 1975 годзе, «знайшоў прытулак у Канадзе» (б. 55).

Вялікі аўтарытэт для Мушынскага ў ягоных разважаньнях пра Амэрыку — Барыс Сачанка, які быў у Нью-Ёрку ў 1980 годзе дэлегатам ад БССР на Генэральнай Асамблеі ААН, а дзеля гэтага стаўся «экспэртам» амэрыканаведы. Ходзячы па Нью-Ёрку ў вольным ад сваіх дыпляматычных абавязкаў часе, Сачанка «ня ўбачыў ні адной кнігі савецкага пісьменьніка, перакладзенай і выдадзенай у ЗША». А ўжо-ж, калі чалавек трапіць упяршыню ў Нью-Ёрк ды зазірне ў выпадковую кнігарню, дык не надта й знойдзе. Сачанка й назіральнасьцяй вялікай, як выглядае, не адзначаўся, бо магазын савецкае кнігі (сёньняшняя кнігарня Камкіна) у ягонай кнізе выйшаў не «Чатыры кантынэнты», а «Тры кантынэнты»... (б. 21). Ну, але гэта дробязі супраць іншых мэтадалягічных «быкоў», якія робіць Мушынскі ў сваім трактаце.

Барыс Сачанка, быўшы ў Нью-Ёрку, ня мог, пэўна-ж, не наведаць славутай 42-й вуліцы ў раёне Брадвэю, дзе поўна рознае парнаграфіі й сэксу. Там вечна шмат турыстаў і рознага мясцовага элементу. «Чаго вы там ня ўбачыце! — усклікае за Сачанкам Мушынскі. — Кінатэатры, у якіх нічога няма, апроч сэксу, магазынчыкі, дзе прадаецца парнаграфічная літаратура,.. выданьні розных клюбаў (садыстаў, гомасэксуалістаў, лесьбіянак і г.д.) і тое, што проста, паважаючы чытачоў, назваць нельга...». Ах, як туды хацелася-б і Мушынскаму трапіць!.. Але тымчасам вучонаму мужу даводзіцца карыстацца Сачанкавымі вачыма, каб на аснове гэтага «эмпірычнага матар'ялу» (выраз Мушынскага) расшыфраваць, пры дапамозе свае «мэтадалёгіі» «сацыяльную прыроду» (таксама Мушынскі, б. 50) Амэрыкі: «Красамоўныя сьветчаньні беларускага пісьменьніка адноса ўзроўню духоўнага жыцьця, нораваў і звычаяў, якія пануюць у сучасным капіталістычным грамадзтве і якія так бездапаможна рэклямуе газэта 'Беларус'...».

Меркаваць пра «ўзровень духоўнага жыцьця» Амэрыкі на аснове таго, што дзеецца на двух кварталах 42-й вуліцы ў Нью-Ёрку, гэта тое самае, што меркаваць пра жыцьцё ў БССР на аснове рэпартажа газэты «Зьвязда» пра «генэралаў 'звалак'» (гл. Б-с» № 348, «Менскія бяздомнікі»). Але гэткімі бязглуздымі аргумэнтамі «Беларус» ніколі не карыстаўся, ніякая «мэтадалёгія» яго да гэтага не забавязвае.

Спрачацца з Мушынскім — што ваду сітам чэрпаць. Не зважаючы на ўсё тое, што цяпер пішацца ў савецкім друку аб нядаўным гвалце над людзьмі, над навукай, над фактамі (не здрама-ж сёлета ў савецкіх школах і экзаменаў зь гісторыі ня было!), Мушынскі вам заяўляе: «Савецкім вучоным, узброеным перадавым навуковым сьветапоглядам, у тым ліку прынцыпам усьвядомленага гістарызму, няма патрэбы паляпшаць мінулае і сучаснае» (б. 10). Тут ужо нічога ня скажаш, тут можна адно рукамі разьвесьці.

Мушынскі асабліва намагаецца падправіць савецкае мінулае. Ён піша:

«Недапушчальна атаясамліваць, як гэта робіць А. Макмілін, антынародную палітыку царскага ўраду на эканамічна адсталых ускраінах Расійскай імпэрыі, у тым ліку і на Беларусі, і палітыку Савецкай улады, уся дзейнасьць якой — у адпаведнасьці зь ленінскім плянам пабудовы сацыялізму — была скіравана на інтэнсыўнае разьвіцьцё нацыянальных культур, на актывізацыю грамадзкага, палітычнага жыцьця ў нацыянальных рэспубліках, на падрыхтоўку нацыянальных кадраў для ўсіх галін народнай гаспадаркі». (б. 66).

Так, «недапушчальна атаясамліваць» палітыку царскага ўраду й палітыку савецкае ўлады, але якраз у адваротным сэнсе, асабліва ў дачыненьні да літаратураў нерасейскіх народаў. Вось што сказана нарэшце ў афіцыйным друку, сказана праўдзіва, пра савецкую палітыку («на ўскраінах імпэрыі»). Падаём словы рэдактара аддзелу прозы часапісу «Дружба народов» Эдуарда Белатава зь інтэрв'ю газэце «Вечерняя Москва» (19.VII.1988):

«Пад сьцягам змаганьня з гэтак званым буржуазным нацыяналізмам былі ўстопленыя ў крыві беларуская літаратура, украінская, гэбрэйская, усё лепшае там было проста выразана. Яшчэ цяжэй давялося многім малым народам. Былі зьнішчаныя практычна ўсе пісьменьнікі удмурцкія, алтайскія, башкірскія, комі... А ў маленькай Марыйскай рэспубліцы была зьнішчаная літаральна ўся інтэлігенцыя! Пісьменьнік-краявед Кім Васін перадаў мне дакумэнты запраўды страшныя.

«Пачынаючы з канца 20-х гадоў вызначылася зусім відавочная тэндэнцыя русыфікацыі ўскраінаў. Шырока пашыраны ў тым часе тэзіс аб літаратуры й мастацтве нацыянальных формаю і сацыялістычных зьместам пры ўсёй сваёй уяўнай біскрыўднасьці быў вельмі шкодны. Таму што нацыянальнаму адводзілася ў гэтай формуле роля чагосьці другараднага, чыста дэкаратыўнага.

«Скажам так. Было апавяданьне. А. Талстога 'Расейскі характар'. Гэта ўспрыймалася нармальна: у Расейца мог быць свой нацыянальны характар. Але ўявіць сабе ў літаратуры тых гадоў існаваньне апавяданьня, прыкладам, 'Таджыкскі характар' было зусім немагчыма: мамэнтальна было-б выстаўленае абвінавачаньне ў буржуазным нацыяналізьме».

За свой «буржуазны нацыяналізм» беларуская літаратура вялікай крывёй заплаціла, і людзкой і творчай. У газэце «Беларус» зьмешчана цімала матар'ялаў да гэтага цярністага шляху, пра які не баяцца нарэшце гаварыць Эдурад Белатаў, «Вечерняя Москва» ды іншыя цэнтральныя органы друку. Некаторыя менскія публікацыі пачалі пісаць таксама пра «сталінскія хатыні» ў літаратуры. І толькі можна выказаць жаль, што Міхась Мушынскі замяж таго, каб заняцца дэфальсыфікацыяй дасюлешняе партыйнае хлусьні пра гэтак званы росквіт нацыянальнае культуры Беларусі, апусьціўся да ўзроўню апалагета сацрэалістычнага застою ў беларускай літаратуры.

**Янка Запруднік**




*Марка Ф. Скарыны з канвэрту першага дня выпуску менскім паштамтам 17.III.1988 году. Канвэрт быў нам ласкава прысланы сп. Багданом Паўкам.*

## «УСХОДНІЯ» АПЭТЫТЫ ЧЫКАГАЎСКІХ ПАЛЯКОЎ

Некаторыя польскія эміграцыйныя арганізацыі ўсё яшчэ ня могуць забыцца аб колішніх «крэсах усходніх», г.зн. заходніх землях Беларусі і Украіны, што ўваходзілі ў склад міжваеннае Польшчы.

Выдаваны ў ЗША «Новы дзеньнік» (4.VIII.88) падаў камунікат польскага Чыкагаўскага Грамадзкага Камітэту пад заг. «Непарушальнасьць мяжы». Камітэт, у які ўваходзяць «прадстаўнікі польскіх незалежніцкіх камбатанцкіх, вэтэранскіх і грамадзкіх арганізацыяў», на паседжаньні 21.VII.88 прыняў рэзалюцыю на падтрыманьне пазыцыі польскага эміграцыйнага ўраду, які, кажа рэзалюцыя: «стаіць на становішчы непарушальнасьці граніцы Польшчы наўсуперак умовам Сталін-Гітлер і пазьнейшым у Ялце й Тэгеране».

Рэзалюцыя чыкагаўскага камітэту ў трэйцім пункце кажа: «Закрананьне справы граніцаў ня служыць інтарэсам польскага народу ані таксама суседнім з намі народам». І далейшы пункт: «Усе нашыя намаганьні павінны быць скіраваныя на зварот волі польскаму народу й суседнім зь ім народам».

Чыкагаўскія Палякі, відаць, не глядзяць на Беларусаў і Украінцаў, як на «суседнія народы», якім таксама належыцца права на «волю». Калі-ж чыкагаўскія Палякі бачаць гэтыя два суседнія народы ды прызнаюць ім права рупіцца пра сваю незалежнасьць, дык тады рэзалюцыя чыкагаўскага камітэту гучыць як пасяганьне на чужое. Факт уваходу заходніх земляў Беларусі і Украіны ў міжваенную Польшчу аніяк ня робіць гэтыя землі этнічна польскімі.

Гаварыць-жа, што аднаўленьне ўсходняе мяжы Польшчы часоў Пілсудзкага «служыць польскім інтарэсам» і аднача́сна інтарэсам «суседніх з намі народаў» гучыць проста камічна.

## ПРАФ. Т. БЭРД ПРА БЕЛАСТОЧЧЫНУ

*(Заканчэньне з 3-й б.)*

пра беларускую эміграцыйную літаратуру?

***«Б-с»:*** А што цікавага было яшчэ ў Вашым падарожжы на Беласточчыну?

***Б.:*** Найбольш цікавае, проста фантастычнае, было сьвята Купальля. Пабачыў я самае запраўднае, народнае, калярытнае сьвята! Ніякага тэатру, ніякае штучнасьці: аўтэнтычны фальклёр! Касьцюмы, вянкі, сьвечкі, песьні, вогнішча, маса моладзі. І гэта сярод прыроды, у самой Белавежскай пушчы!.. Быў я таксама на багатым народным фэстывалі песьні ў вялікім амфітэатры ў Беластоку. У ім узялі ўдзел розныя калектывы з навакольных мясцовасьцяў, а таксама ансамбль з Гародні. Сллвам, была цэлая мазаіка беларускага жыцьця. Старшыня Беларускага Таварыства др. Баршчэўскі сказаў прыгожую прамову. А пасьля канцэрту адбылося тое сьвята Купальля, пра якое я згадваў — зь песьнямі, пушчаньнем вянкоў на ваду, рознымі гульнямі. І так праз цэлую ноч! Першы раз я нешта такое бачыў. Цудоўнае сьвята! Мне было асабліва радасна быць там, бо са мною быў мой добры знаёмы зь Нью-Ёрку Мікалай Заморскі — было зь кім дзяліцца ўражаньнямі, захапленьнем. Мы з Коляю меlі great time.

***«Б-с»:*** Дазвольце яшчэ адно пытаньне: якую ролю выконвае ў жыцьці Беласточчыны катэдра беларускай філялёгіі пры Варшаўскім унівэрсытэце, на чале якой стаіць праф. Аляксандар Баршчэўскі, цяперашні старшыня БГКТ?

***Б.:*** Ролю незаменную, выключна важную. Дзякуючы катэдры, зьбіраюцца, вывучаюцца і пашыраюцца беларускі фальклёр, народнае мастацтва: разьба, вышыўка, ткацтва; культывуецца ўвага да гістарычнае спадчыны. Што яшчэ важней — дзякуючы Беларускай філялёгіі, растуць кадры інтэлігенцыі: настаўнікаў роднае мовы, журналістаў, арганізатараў. Кадры, як ведама, усюды і заўсёды — галоўны фактар кожнага руху. Мне хацелася-б таксама адзначаць і вельмі важную ролю самога Беларускага Таварыства. Гэтая арганізацыя сталася цэнтрам, у якім гуртуюцца людзі рознага веку, розных зацікаўленьняў, з розных частак краю. Але ўсе яны вырабляюцца ў сваім Таварыстве на добрых Беларусаў, зацікаўленых у мацаваньні й разьвіваньні свае культуры, традыцыяў. Шмат спрычыняецца да гэтага газэта «Ніва», а таксама настаўнікі беларускіх ліцэяў і пачатковых школаў.

Беларускае жыцьцё на Беласточчыне — гэта жывы творчы працэс, у якім бяруць удзел цудоўныя і самаахвярныя людзі.

**ПАДТРЫМВАЮЧЫ «БЕЛАРУСА», ВЫ БАРОНІЦЕ БЕЛАРУСЬ**

# СМУРОД НА НАШЫМ ПАНАДВОРКУ

**Памфлет**

***Ад Рэдакцыі:*** *У самвыдавецкай публікацыі «Бурачок», пра якую мы паведамілі ў папярэднім нумары «Беларуса», зьмешчаны памфлет пад заг. «Смурод на нашым панадворку» пра Алеся Бажка, «заслужанага работніка культуры БССР», які ведамы найбольш сваёй вульгарнай публіцыстыкай пра «белбурнацаў». Бажко мае таксама прэтэнсію і на спэцыяліста міжнароднай тэматыкі.*

*Між іншага, у сёлетнім першым нумары часапісу «Нёман», рэдакцыя часапісу пісала, што Бажко, «мяркуючы паводле ягонага артыкулу ў газэце «Зьвязда» за 17 чэрвеня летась (гл. «Беларус» № 337: «Савецкі прапагандыст чытае 'Беларуса'») «не ў ладох з самай элемэнтарнай лёгікай». «Нёман» назваў Бажкоў артыкул «рэцыдывам сумнай памяці нядаўнага часу зь ягонай пагардай да асобы, ейнае самацэннасьці і значнасьці».*

*Бажко гэткі не адзін у беларускай савецкай публіцыстыцы й гістарычнай навуцы. Да тае самае менш-больш катэгорыі належаць Пепеляеў, Бягун, Прокша, а таксама гісторыкі Залескі, Сташэўскі, Коўкель ды некаторыя іншыя.*

*Ніжэй зьмяшчаем памфлет пра Бажка, перадрукоўваючы яго поўнасьцяй* ***з «Бурачка» з захаваньнем мовы й правапісу*** *арыгіналу.*

* * *

Алесь Бажко вядомы сярод людзей, зьвязаных з бел. культурай, як адзін з апошніх мастадонтаў вульгарнай сацыялогіі і псеўдапатрыятызму. Сваім сьмяротным ворагам ён лічыць «беларускі нацыяналізм ва ўсіх яго праявах», супраць якога і выступае ў друку, часам зьбіраючы пісаніну пад агульнай вокладкай.

Пасквілі Божкі нагадваюць віскат шалудзівага кудлы, што бегае на ланцугу вакол будкі і раз-по-раз прасоўвае галаву пад плот, каб захлынуцца якатаньнем, пачуўшы беларускае слова па-за ўласным панадворкам. Калі зазірнуць Божку ў зяпу, то можна ўбачыць, як там чорна і гніла ад склізкага глюзу. Гэткі ж «водар» сыходзіць з ягоных літаратурна-публіцыстычных спарожжаў. «Бел-бел-бел! Бур-бур-бур!» — абліваецца сьлінаю Божка, высунуўшы пысу пад плот і завесіўшы зенкі нямытымі касмылямі. «Цы-цы-цы» — пазвоньвае ланцуг. Толькі дзіву даесься, як ён яшчэ ня трэсьне ад уласнага енку, не абліецца жоўцю, ня скруціцца ў сутаргах ад падучкі. Але гэты кудла не такі дурны і зацяты, як здаецца на першы погляд. Школа дзьвюх сухарэбрых шавак 30-х гадоў, Айзіка Кучара і Лукі Бэнды, што падбрэхвалі адзін аднаму: «Нац-нац!» — «Дэм-дэм!», не мінула дарэмна. Кудла-Божка чуе, адкуль дзьме вецер, каго можна аббрахаць беспакарана, а каго не. Так ён гаўкае на ўсіх без выключэньня беларусаў, што жывуць за плотам, у капіталістычных краінах. А вось на вядомага бел. празаіка з Беластоку Сакрата Яновіча — толькі вышчэрваецца, пабрэхвае цішэй, з аглядкай. І сьліна тут разьлятаецца не на тры мэтры, а сабе на пысу. А то і наогул памаўчыць, падціснуўшы грызак. Бо ў сваім двары які-небудзь бычок-трацячок не-не дый паддзене Божку капытом. А гэтага кудла ня любіць. Ад гэтага ў яго тыражы падаюць. Бо даводзіцца яму пра бычка шрайбаць у адным асобніку і, што зусім ужо дрэнь, бяз подпісу.

Чаго-чаго, а жоўці Божку не пазычаць. Толькі вось разьліцца яму ўва ўсёй сваёй гнюсаце часта ланцуг не дазваляе. І тады захрыпіць кудла, выкаціць налітыя мутнаю вадой зенкі ды і лясьнецца на хрыбет.

Кожны сабака шукае сабе смачнейшы кавалак, але ў ланцуговых кабздохаў за найвышэйшую вартасьць лічыцца зьвяглівы голас. Хай сабе й не падобны на брэх сабачы, а больш на сьвінячы віскат, ад якога мароз па скуры. І хочацца ляснуць кабздоха якім калом, а тут — сьліна на тры мэтры ўскол і якім бы ты ні быў — хоць тры разы памыйся — здасіся падазроным — абліжа, павароціць, такое прылютуе — памрэш, сто разоў у труне перавернесься. А яму збрахаць — што заднюю лапу абмачыць. І вокам не міргне.

Кудла самаўпэўнены. Калі ў бруднай плыні яго бяздоказнага блявоцьця і мільгане якая відавочная няўвязка, накладка — палянуецца лішні раз захлопнуць зяпу — і так паверацць. Так. Божку нічога не каштуе да фашыстоўскіх паслугачоў запісаць і П. Крэчэўскага, які, хай сьпіцца чалавеку спакойна, памёр у 1928 годзе ў Празе. Тым ня менш, паводле кабздоха, ён «увянчаў сваю кар'еру прыслужніцтвам перад нямецка-фашысцкімі захопнікамі і стаў ваенным злачынцам» («Звязда», 7.VI.85).

Кудла-публіцыст нагайстрыў свой нюх яшчэ ў «Сталінскім шляху», ня ў прыклад тым «маладым актывістам Грамады» М. Пяцюкевічу і Я. Шутовічу, якім ён літасьціва спачувае з прычыны «нагляду за імі польскай паліцыі і пакараньня іх» («Татальнае банкруцтва», Менск, 1982, с. 80). А што ж, можна і пашкадаваць — як-ніяк кожны да 8-10 гадоў адседзеў пасьля вайны за тыя самыя даваенныя ідэалы, за старыя грамадоўскія «грахі», калі кудла-Божка вочы праглядваў шукаючы тую дзірку, якую яшчэ не лізнуў. Павучылі, між іншым, у Варшаўскай кансэрваторыі, дзе польскія прафэсары так і не паставілі яму голасу — цяжка з кабздоха зрабіць завадовага мастака. Потым у Маскве, у літінстытуце, маскоўскія карыфэі прыгожага пісьменства хоць і цягнулі новасьпечанага паэта, і вершы атрымаліся ня лепш за сьпевы. На трэйці свой шлях кудла ўзьбіўся сам. Адчуў, што тут можа стаць адзіным у сваім родзе, бо на тое, каб са смакам плювацца гаўном — трэба мець рэдкае прызваньне. І пачаў.

Ня трэба тлумачыць, якую рэакцыю ў чытача выклікае паведамленьне пра тое, што бел. нацыянальныя дзеячы супрацоўнічалі з фашыстамі. Але ж паглядзім, каго Божка адносіць да гэтых «супрацоўнікаў»: «...спрабуюць рэабілітаваць нацыянальных дзеячоў мінулага — В. Ластоўскага, Я. Лёсіка... І на іх падобных, якія закончылі сваю кар'еру ў рангу нацысцкіх паслугачоў і ваенных злачынцаў» («Звязда», 16.XI.85). Наўрад ці кудла ня ведае, што В. Ластоўскі і Я. Лёсік стаялі пры зараджэньні бел. нацыянальнага руху, былі правадзейнымі членамі АН БССР, а «закончылі сваю кар'еру», кар'еру адданага служэньня Бацькаўшчыне, у рангу паліткатаржнікаў на Поўначы, сасланыя туды яшчэ ў 1929 годзе. Але ж яны не рэабілітаваныя. Не знайшлося пакуль каму рэабілітаваць. І гэтага юдзе ад бел. культуры хапае, каб правіць свой чорны шабас.

Белымі ніткамі прыклёствае кабздох да фашызму і бел. нацыянальны каталіцкі рух. Гэта тады, калі вядома, што бел. ксяндзы Глякоўскі, Малец, Рыбалтоўскі, Неманцэвіч, Сянкевіч, Галяс, Гадлеўскі, Аношка... загінулі ў гестапаўскіх засьценках. Мусіць жа не за шчырую дапамогу фашыстам і здраду бел. народу! Жахлівы сьпіс ахвяраў дзеячоў беларускага нацыянальнага руху, распачаты пры І. Сталіне, працягваўся і ў нямецка-фашыстоўскую акупацыю. Працягвалася метадычнае вынішчэньне сьвядомай нацыянальнай інтэлігенцыі. Пра якое сумленьне гэтага недаробка можна казаць, калі ён ахвяраў фашызму запісвае ў памагатыя!

У сваёй чыста сабачай, беспрычыннай нянавісьці Божка часта даходзіць да абсурду. Ён лёгка ператварае бел. музэйна-бібліятэчны комплекс імя Ф. Скарыны ў Лондане ў англа-амерыканскую «шпікалоўку», «базу для звычайнай шпіёнска-дыверсійнай школы». І ўсё гэта без адзінага доказу, факту. Калі з няўгодных яму людзей, якіх ня стала яшчэ ў 20-я гады, ён робіць фашыстоўскіх злачынцаў, дык чаму ж з беларускага культурнага цэнтру за мяжой не зрабіць «шпікалоўку»? Ланцуг дазваляе. Нават збор у гэтым цэнтры нашых культурных каштоўнасьцяў, раскіданых па сьвеце ў віхуры войнаў, за грошы беларусаў-эмігрантаў кудла мянуе «здрадніцтвам»...

Шалее Божка, енчыць, пнецца захаваць голас, пастаўлены ў «Сталінскім шляху». Але ад старасьці ў яго вышмальцавалася шкура, скрышыліся зубы, заплятаецца язык. Нядоўга яму засталося смуродзіць паветра. Дык стараецца кудла адбрахацца, адслужыць міску поліўкі за саламяны падсьціл.

Ужо зараз ніхто не згадвае пра паэтычную творчасьць кабздоха, а пройдзе трохі часу і яго адцягнуць за ашыйнік з панадворку на сьметнік, выграбуць спарожжы і блявоцьце, каб не сьмярдзела. І доўга яшчэ людзі, сьцяўшы насы, будуць абыходзіць сьметнік ды палохаць дзетак, каб не хадзілі туды, бо там — ПАДЛА.

# ЗВАРОТ ДА ГРАМАДЗТВА

У выдавецтве Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва друкуюцца й выйдуць неўзабаве гэткія кніжкі, на выданьне якіх патрэбная фінансавая дапамога.

**«Беларуская Дзяржаўнасьць: хрэстаматыя зь бібліяграфіяй»** — зборнік артыкулаў у ангельскай мове пра абставіны, у якіх тварылася Беларуская Народная Рэспубліка. У кнізе дадзеная храналёгія галоўных падзеяў ды біяграфіі каля 50-х дзеячоў тае пары. Кніга будзе абыймом каля 450 балонак.

**Запісы № 18.** Зборнік прысьвечаны Франьцішку Скарыну, зьмяшчае новыя ніколі не друкаваныя дакумэнты аб Скарыну, каляндар Скарынавае пары ды ўпяршыню передрукаваная Малая Падарожная Кніжка.

**Бібліяграфія Скарыніяны** аўтарства др. В. Тумаша. Кніга, каля 400 бачынак, будзе найбольшай дасюль крыніцай матар'ялаў аб Франьцішку Скарыну.

Апрача вышэй названых кніжак, БІНіМ друкуе кніжку **«Выбраныя творы Міхася Кавыля»** (выхад запляніваны на 1988 г.)

Усе выданьні, апрача твораў Міхася Кавыля, якія фінансуюцца грамадзкай падпіскай, выходзяць дзякуючы часткавай дапамозе гэткіх установаў як Фундацыя П. Крэчэўскага, Рада БНР, дзякуючы беларускім арганізацыям Кліўленду, аддзелу БАЗА ў Нью-Ёрку ды колькім ахвярным асобам. Гэтыя ахвяры аднак далёка не пакрываюць усіх коштаў выданьня. Дзеля гэтага Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва зварачаецца да шырэйшага беларускага грамадзтва зь вялікай просьбай аб дапамозе выдавецкай дзейнасьці БІНіМ'у.

**Управа БІНІМ**

***Новая беларусіяна***
***New Bielarusiana***

## НАБЫВАЙЦЕ-ПАШЫРАЙЦЕ

СЛОВА ПРА ПАХОД ІГАРАВЫ. Пераклад Рыгора Барадуліна. Уводны артыкул Міколы Гайдука. Выданьне часапісу «Беларускі Сьвет» у выдатным афармленьні. 32 б. Цана: 5 дал.

*Зьніч*. РЭХА МАЛІТВЫ. Вершы зь Беларусі. Уводны артыкул Янкі Запрудніка. На люксусовай паперы. Выданьне газэты «Беларус». 36 б. Цана: 5 дал.

*Масей Сяднёў*. І ТОЙ ДЗЕНЬ НАДЫЙШОЎ. Раман. Выданьне аўтара. 245 б. Цана: 10 дал. (50% на «Беларуса»).

THE BYELORUSSIAN TRISTAN. Translated by Zora Kipel. Vol. 59. Series B. Garland Library of Medieval Literature. 167 p. Price: $32.

THE JOURNAL OF BYELORUSSIAN STUDIES. Vol. VI, N. 1 (1988). 76 p. Price: $12.

BYELORUSSIAN TOPICS. Byelorussian Magazine, N. 1 (1988). 20 p. Price: $3.

ЗАПІСЫ БІНіМ, кн. 18, 1988. 200 б. Цана: 20 дал.

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД

*Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва атрыманыя ахвяры:*

| | |
|---|---|
| Аддзел БАЗА ў Нью-Ёрку | ам.д. 500 |
| Н. Кудасава | 100 |
| М. Раецкі (Аўстралія) | 80 |
| Др. У. Набагез | 68 |
| Др. Л. Трусэвіч | 68 |
| Сп-ва Касмовічы | 20 |
| М. Заморскі | 18 |
| Ф. Бартуль | 8 |
| Усяго | 862 |

Управа БІНіМу шчыра дзякуе ўсім ахвярадаўцам.

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

**ЗША**

*Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| Я. Чорны | ам.д. 105 |
| І. Гайдзель | 100 |
| Я. Сяўковіч | 90 |
| М. Раецкі | 80,36 |
| В. і М. Махнач | 50 |
| М. М. К. | 35 |
| Ю. Касьцюкевіч | 20 |
| М. Сяднёў (з прод. кніжак) | 15 |
| М. Грэбень | 10 |
| Англа-Бел. Т-ва | 9 |
| М. Г. | 5 |
| Усяго | 509,36 |

## НА БЕЛАРУСКАЕ РАДЫЁ Ў ПЭРЦЕ (З. АЎСТРАЛІЯ)

*Склалі ахвяры:*

| | |
|---|---|
| Аддзел БАЗА ў Нью-Ёрку | ам. д. 200 |
| Парафія БАПЦ у Кліўленьдзе | 100 |
| М. Грэбень | 70 |
| К. Калоша | 50 |
| С. Карніловіч | 50 |
| А. Сацэвіч | 50 |
| Я. Запруднік | 30 |
| Усяго | 550 |

Зь вялікай падзякай ад імя ўсіх слухачоў!

**Міхась Раецкі**

УВАГА! У папярэдніх нумарох «Беларуса» падаваўся з памылкай паштовы індэкс адрасу сп. Даніловіча, *правільна* трэба — 08901.

**B. Danilovich**
**303 Howard St.**
**New Brunswick, NJ 08901**